# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamlenņi**

Сусьветнае сеціва: ***e-krama.com, pahonia.com***
Электронны адрас: ***viestki@mail.com***
✉ ***P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735***

**№ 5 (615)**
**Травень 2017 г.**


# Чарнобыльскі мітынг у Нью-Ёрку

Усераду, 26 красавіка 2017 года, перад будынкам штаб-кватэры Арганізацыі Аб’еднаных Нацыяў на Мангэтане прайшоў мітынг, прысьвечаны 31-й гадавіне Чарнобыльскай катастрофы. Мітынг быў ладжаны Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня” як выказ салідарнасьці й падтрымкі беларусам, што пацярпелі ад Чарнобыльскай аварыі й дасюль вымушаныя сутыкацца зь яе наступствамі. Гэта таксама выказ пратэсту супраць той абыякавасьці, якую праяўляюць улады ў Беларусі, замоўчваючы сапраўдную сытуацыю ў забруджаных раёнах, і будуючы Астравецкую атамную станцыю – патэнцыйную крыніцу новай радыяцыйнай небясьпекі ды ўзмацненьня энэргазалежнасьці ад Расеі.

Напачатку мітынгу перад прысутнымі выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня”сп. Віталь Зайка. Ён нагадаў асноўную інфармацыю пра падзеі, калі ў выніку некантраляванага функцыянаваньня рэактара на Чарнобыльскай атамнай станцыі адбыўся выбух і пашкоджаньне рэактару, пачаўся пажар, і ў выніку – масіўны выкід у атмасфэру радыяактыўных рэчываў. Каля 70% абшару Беларусі тады было забруджана нуклідамі ў выглядзе радыёактыўных ападкаў. А на абшары, дзе ўзровень радыяцыі значна перавышаў сантітарныя нормы, апынулася больш за 2 мільёны людзей, 25% усяго насельніцтва Беларусі. Але, нягледзячы на пагрозу для здароўя, у першыя дні й тыдні пасьля аварыі ўлады ўсяляк замоўчвалі памер катастрофы і не даводзілі да насельніцтва меры, якія маглі б абараніць здароўе людзей. Ужо пасьля некалькі соцень тысяч чалавек з радыяцыйнай зоны былі прымусова пераселеныя на новыя месцы пражываньня. Тагачаснае камуністычнае кіраўніцтва БССР адмовілася ад дапамогі з боку ўраду ў Маскве, каб паказаць сваю “ахвярнасьць” і “гераізм” з прыцэлам на вышэйшыя пасады ў Крамлі. Шмат людзей атрымалі промневую хваробу, што маскавалася як “вэгетатыўна-сасудзістыя захворваньні” і захворваньні шчытападобнай залозы.

З набыцьём Беларусьсю незалежнасьці былі зробленыя крокі да стабілізацыі становішча ў забруджаных рэгіёнах, публікаваліся мапы забруджаньня, ліквідатарам, пацярпелым і перасяленцам былі ўведзеныя ільготы, выплочвалася дапамога. Калі да ўлады прыйшоў А. Лукашэнка, праўда аб становішчы ў чарнобыльскай зоне стала хавацца, ільготы й выплаты былі адмененыя. Лукашэнка штогод стаў наведваць паасобныя населеныя пункты ў зоне забруджаньня і выступаць з заявамі, што тэрыторыя стала чыстай і там ужо зусім бясьпечна жыць і працаваць. Тых, хто як навуковец Юры Бандажэўскі, аспрэчвалі афіцыёзную пазыцыю, рэжым перасьледваў і кідаў за краты, паказваючы, што можа здарыцца з “праўдашукальнікамі”. Між тым на забруджаных землях працягваюць жыць каля 12% насельнікаў краіны. Затым пад прыкрыцьцём размоваў пра “энэрганезалежнасьць” рэжым пачаў будаваць АЭС у Астравецкім раёне, без шырокага абмеркаваньня і нягледзячы на пратэсты грамадзкасьці. Абсталяваньне й эксплюатацыю АЭС будуць ажыцьцяўляць расейскія фірмы і, адпаведна, энэргазалежнасьць ад Расеі толькі пыглыбіцца.

Таму мітынгоўцы выйшлі на пляцоўку перад штаб-кватэрай ААН, каб выказаць сваю салідарнасьць з пацярпелымі ад Чарнобыльскай катастрофы і заявіць свой пратэст супраць палітыкі Лукашэнкі ў адносінах да праблемаў, зьвязаных з радыяцыйным забруджаньнем і радыяцыйнай небясьпекай у Беларусі.




Затым са сваімі ўражаньнямі ад падзеяў, зьвязаных з Чарнобыльскай аварыяй, выступіў сп. Віктар Едзіновіч.

Удзельнікі мітынгу скандавалі лёзунгі: “Спыніць новы Чарнобыль у Беларусі!”, “Беларусь – так! Лукашэнка – не!”, “Жыве Беларусь!”, мінакам раздаваліся ўлёткі пра гадавіну Чарнобылю і пра мэты мітынгу. Луналі бел-чырвона-белыя сьцягі, удзельнікі трымалі плякаты, што інфармавалі пра гадавіну аварыі й выказвалі пратэст супраць будовы АЭС у Беларусі.

***Віталь ЗАЙКА***

# Красавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 8-га красавіка, адбыўся чарговы красавіцкі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў для тых, хто прыйшоў упершыню, пра мэты і прынцыпы арганізацыі, а таксама пра яе дзейнасьць. Ён спыніўся таксама на нядаўніх акцыях, што ладзіла і ў якіх брала ўдзел”Пагоня” ў сувязі зь нядаўнімі дэманстрацыямі й пратэстамі ў Беларусі супраць падатку на беспрацоўе.

Затым сп. Зайка паведаміў пра адыход у вечнасьць выбітнага на эміграцыі ў ЗША паэта Міхася Кавыля, які памёр у Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі, на 102-м годзе жыцьця. Міхась Кавыль (псэўдонім Язэпа Лешчанкі) нарадзіўся на Случчыне, рана пачаў пісаць вершы (як Міхась Маёвы), уваходзіў у літаратурную суполку “Маладняк”. Вучыўся ў Белпэдтэхнікуме, што стаў школай усьведамленьня для шмат каго з выбітных постацяў часоў беларусізацыі. Гэта не засталося паза ўвагай карнага воргану бальшавізму – ГПУ, і Міхась Кавыль быў у 1933 годзе арыштаваны. Ён узгадваў, што яму надавалі сілы выявы “Пагоні”, якія паказвалі сьледчыя, спрабуючы абвінаваціць у антыбальшавіцкай дзейнасьці. Затым па выдуманым абвінавачаньні аб прыналежнасьці да контрэвалюцыйнай арганізацыі паэт адбыў 3 гады ў зьняволеньні на Далёкім Усходзе. Пасьля вызваленьня яму не далі вярнуцца ў Беларусь, уладкаваўся на працу настаўнікам у Варонежы. Падчас Другой сусьветнай вайны ён быў змабілізаваны ў Чырвоную армію і трапіў у палон пад Харкавам у 1942 годзе. З дапамогаю прадстаўнікоў групы Акінчыца, што езьдзіла па лягерах ваеннапалолонных і вызваляла беларусаў для нацыянальнай працы на Бацькаўшчыне, Міхась Кавыль вярнуўся ў Беларусь і стаў працаваць у Саюзе Беларускай Моладзі (СБМ). У 1944 годзе выехаў у Нямеччыну, быў там у ДП-лягерох, выдаў кніжку вершаў “Ростань” (1947). Затым пераехаў у Бэльгію і з 1950 году стаў жыць у ЗША. Браў актыўны ўдзел у грамадзкім і рэлігійным жыцьці, працаваў у Беларускім Кангрэсовым Камітэце Амэрыкі, быў рэдактарам газэты “Беларуская Трыбуна” і часапісу “Беларуская Думка”. У Амэрыцы выйшаў шэраг зборнікаў ягоных твораў, сярод іх набольш поўны “Міжагнёўе” (БІНіМ, 1990). Паэт быў ахвярным, таварыскім і актыўным чалавекам, граў на акардэоне, стыпяваў у царкоўным хоры, пісаў скетчы й невялікія п’есы для беларускай нядзельнай школы. Ён быў любімы й шанаваны суродзічамі й парафіянамі. Але творчасьць ягоная, нажаль, зусім мала вядомая на Бацькаўшчыне, хоць, па словах ангельскага дасьледчыка беларускай літаратуры Арнальда Макміліна, Міхась Кавыль па ўзроўні сваіх вершаў мусіў бы быць народным паэтам.

Затым сп. Віталь Зайка і сп-ня Валянціна Якімовіч прачыталі шэраг вершаў Міхася Кавыля. Сп-ня Якімовіч распавяла пра традыцыйныя абрады беларусаў, пра абрадавы фальклёр. Яна пачала з уласных успамінаў, як прыйшла да беларускага фальклёру і зацікавілася народнымі сьвятамі. “Усё пачыналася з суполкі “Майстроўня” напачатку 1980-х, затым утварылася аб’яднаньне “Талака”. Сп-ня Якімовіч згадала Гуканьне вясны ў 1986 годзе, калі камуністычныя ўлады нацкавалі на дзяўчатаў і хлопцаў, што бралі ўдзел у сьвяткаваньні, вэтэранаў вайны ў Аўганістане. Затым яна распавяла пра сымбалізм беларускіх абрадаў і пра свой досьвед аргнізацыі Купальляў у ЗША, пачынаючы з 2000 года.

Сп. Зайка зрабіў аб’яву пра сёлетняе Купальле, што мае адбыцца 24-25 чэрвеня ў Паўнд-Рыдж на поўнач ад Нью-Ёрку.

Затым у разьдзеле “Рознае” адбыліся знаёмствы з гасьцямі “Пагоні”, а пасьля прысутныя мелі нагоду працягнуць знаёмства і калегавацца пры сьціплых пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***

## KINOVINO

**БЕЛАРУСКІ КІНАКЛУБ У НЬЮ-ЁРКУ**

Я пераехала ў Амэрыку каля года таму і вырашыла для сябе, што хачу працягваць разьвівацца ў творчым накірунку. Да гэтага я каля дзесяці гадоў займалася фатаграфіяй і тут паступіла на рэжысэра.

Мне здаецца, любы імігрант зьяжджае не ад Радзімы, а ад ураду. Усе мы сумуем па Беларусі, усе маем патрэбу ў падтрымцы. Насталгія бярэ сваё. Ад гэтага не ўцячы, нашая мэнтальнасьць у нашай крыві. Падобныя думкі і мая спэцыялізацыя падпіхнулі мяне да ідэі стварэньня кінаклюбу, дзе мы маглі б аглядаць беларускія кінастужкі, а таксама замежныя фільмы па-беларуску, і абмяркоўваць іх у нефармальнай атмасфэры з келіхам віна. Яшчэ калі я вучылася ў БГУ, у нас зь сябрамі быў свой кінаклюб, так што пэўны досьвед у гэтай сфэры я мела.

Днём нараджэньня клюбу можна лічыць 1-га лістапада 2016 года. Менавіта ў гэты дзень у нас адбыўся першы паказ. Мы глядзелі “Жыве Беларусь”. Да таго часу мы ўжо мелі свой лягатып, што зрабіла Кася Сырамалот.

Для другога паказу я ўжо дамовілася зь “Беларусьфільмам” аб супрацоўніцтве. Яны адмыслова для нас, пры ўмове, што паказ будзе некамэрцыйным, падрыхтавалі электронную вэрсію фільма “Анастасія Слуцкая”. Умову было лёгка выканаць, бо нашыя паказы і так ня ставяць перад сабою мэту зарабіць. Я раблю гэта выключна таму, што мне цікавага гэтым займацца.

Да трэцяга паказу я ўжо супрацоўнічала з “Кінаконгам”. Таленавітыя ўдзельнікі гэтага праекту перакладаюць па-беларуску замежныя фільмы. Спачатку мы паказалі “12 разьюшаных мужчын”, а на Дзень закаханых глядзелі “Вогнетрывалы”. Да Дня сьв. Патрыка мы паказалі мультфільм, што намінаваўся на прэмію Оскара ў 2010 годзе “Таямніца Келза”. Наш паказ у Нью-Ёрку супаў з прэмьерай у Беларусі.

*заканчэньне на бачыне 3*



# Вечарына-сьвяткаваньне Дня Волі ў Нью-Ёрку

Нягледзечы на сумныя навіны з апошніх падзеяў у Менску і іншых гарадох Беларусі, мы такі вырашылі сьвяткаваць Дзень Волі ў Нью-Ёрку. Свае сьвяты трэба ведаць і, калі нават ня ладзіць вечарыну зь песьнямі і танцамі, то хоць памятаць, чаму гэты дзень існуе і ў гісторыі сьвету, і ў сьвеце сваёй душы. Мы – пакаленьне ўскормленае "8 марта" і выстраенае "23 лютага" – павінны прайсьці доўгімі сьцяжынамі думак, каб прыняць і ўсвядоміць вартыя даты, якія паспяхова зьнішчаліся яшчэ ў часы нашых бацькоў і дзядоў. Але нават ізаляваная ад большасьці выбуховая і адначасна цярплівая меншасьць захавала і працягвае перадаваць ў нашыя галовы і сэрдцы ідэі незалежнасьці, доказы нашай выключнасьці і багацьце нашай культуры.



*Аляксей Сапрыкін і Пётар Клюеў*

Я часта думаю пра зуброў. Калі б нехта ў свой час не ўсхадзіўся і не пачаў іх ратаваць – мы б сёньня ня мелі магчымасьці дзівіцца магутнасьці жывелы ў рэальнасьці. І пакуль людзі плянэты елі, спалі, жаніліся, хварэлі, нараджаліся – нехта клапаціўся пра гэтых жывелаў, і яму было гэтак жа ўсе роўна, чым і як жылі ўсе астатнія, як і ім на ягоную справу. Але б колькі часу не мінула, заўседы нехта падобны на мяне будзе думаць пра безыменных людзей, што падарылі нам магчымасьць жыць на адной зямлі з зубрамі. Вось і Дзень Волі – гэта наш зубар, за якога трэба падзякаваць тым, хто, нягледзечы на ўласныя і ўсеагульныя праблемы і цяжкасьці, данес яго да нас – тых, хто абавязкова будзе даглядаць за ім і перадасьць наступнаму пакаленьню.

Традыцыйнасьць і своеасаблівая сакральнасьць – адметныя рысы Згуртаваньня беларусаў у Нью-Ёрку. Калі большасьць імпрэзаў патрабуе пэўнай узроставай разгрупоўкі, то Дзень Волі, зусім наадварот, нібы зьнішчае розьніцу ўзростаў і заўседы нагадвае вялікае сямейнае сьвята. Нават людзі, зь якімі ты сустракаешся ўпершыню, ці ведаеш іх толькі па прафайлам сацыяльных сетак, здаюцца, калі ўжо ня роднымі, то, хутчэй за ўсё, стрыечнымі. Таму іншы фармат сьвяточнай вечарыны сёлета не змяніў наш стабільны беларускі настрой і падыход да сьвяткаваньня Дня Волі. Дзякуючы арганізатарам, нам увогуле не даводзіцца сумаваць і чакаць аднаго і таго ж раскладу з году ў год. Ад рок-канцэрту да інтэлектуальных гульняў нас кожны раз здзіўляюць нечым цікавым, калі здаецца, што нічога новага прыдумаць ўжо немагчыма.

Вялікі дзякуй цудоўнаму вядоўцу Аляксею Сапрыкіну за выдатны настрой, падрыхтоўку цікавых пытаньняў і веды ўнікальных фактаў і падзеяў. Асабісты дзякуй таленавітаму маэстра і сьпеваку Пятру Клюеву. Таксама арганізатары вельмі ўдзячныя дэбютантам – выканаўцам Пятру Бартсевічу і Аляксандру Хацкевічу і вандраўніку-музыку Валеру Клімовічу.

Дзякуй праектам Symbal.by і Арт Сядзіба за супрацоўніцтва і выказваем асаблівую падзяку Паўлу Белавусу за ягонае жаданьне дапамагаць і пашыраць беларускую культуру ў ЗША.

Дзякуй нашым адказным і працавітым відэа і фотаапэратарам Сержу Трыгубовічу, Віктару Дудараву, Аляксандру Мікуле.

Шчыры дзякуй Віталю Зайку, Валянціне Якімовіч, Франку Вячорку, Ганьне Бартуль і Сяржуку Сокалаву-Воюшу, Марату Клакоцкаму за падтрымку і супрацоўніцтва. Таксама вялікая падзяка ўсім тым, хто дапамагалі непасрэдна на імпрэзе: Алегу Грыневецкаму, Яўгену Іванюку, Яўгеньні Васілеўскай, Вользе Арахоўскай, Ірыне Лужай. Дзякуючы падтрымцы і працы кожнага зь пералічаных, а таксама тых, хто прыходзіць на імпрэзы – арганізатары маюць магчымасьць і жаданьне генэраваць і рэалізоўваць новыя ідэі.

Асаблівы дзякуй арганізатарам праекту Дзед Барадзед Ганьне Шарко і Аляксандру Мазгавому за тое, што яны робяць для беларусаў замежжа, за іх неабыякавасьць, сапраўднасьць і эмацыйнасьць, якія натхняюць нас быць самымі сабою і крыху нават лепш, чым мы ёсьць, таму што на вечарынах, падобных на штогадавае сьвяткаваньне Дня Волі, беларусы, нарэшце, могуць адчуць нязвыклую дла нас еднасьць, і ёсьць вялікая надзея, што аднойчы ўпадабаўшы гэты смак, усе будуць патрабаваць дабаўкі.

***Марына КРАЖОВА***

*Фатаздымкі Сержа Трыгубовіча*

## KINOVINO

***заканчэньне з бачыны 2***

Я не кажу, што была патрэба ў стварэньні менавіта кінаклюбу: усё ідзе ад канкрэтных людзей і іхных ідэяў. Мне хацелася гэтым заняцца, і вось узьнікла "KINOVINO". Патэнцыяйная аўдыторыя нашых паказаў – гэта беларусы, а таксама расейскамоўныя жыхары Нью-Ёрка. Яшчэ раней суродзічамі зь Беларусі была створаная інтэрнэт суполка "Беларусы ў ЗША. Разам лягчэй". Сярод падобных суполак яна самая вялікая і налічвае каля 1800 чалавек. На фоне гэтай суполкі я і працую.

Цяпер я пляную супрацоўніцтва з дабрачыннай арганізацыяй "Orange Penguin Foundation", што дапамагае хворым дзеткам. Хучэй за ўсё, на кожнай нашай імпрэзе будзе стаяць скрынка, дзе кожны жадаючы зможа пакінуць ахвяраваньне.

Паколькі клюб называецца "KINOVINO", то паказы адбываюцца ў барах. Мы шукаем месца, дзе ёсьць асобнае памешканьне з праектарам, за карыстаньне якім ня трэба плаціць, і дзе можна добра правесьці час пасьля прагляду.

Звычайна нас зьбіраецца да 25 чалавек, што ідэальна для таго, каб не было балагану, а толькі душэўная бяседа. Практычна, як дома! З кожным паказам нашыя абмеркаваньні становяцца ўсё цікавейшымі. Удзельнікі нават рыхтуюцца да іх. "На таямніцы Келза" ў нас нават была амаль што лекцыя аб каліграфіі і ірляндзкім эпасе.

Хацелася б рабіць на месяц не адзін паказ, а хаця б два. Зьявілася ідэя "разагрэву" перад паказам фільма. Напрыклад, паказваць беларускія мульцікі ці сэрыі перадачаў, тых жа "Саша і Сярожа" ці "Ўсё нармальна, мама". Ну і вядома ж, перайсьці ў выходны фармат, каб імпрэзы магло наведваць больш людзей. Чакаем вас на нашых паказах!

***Насьця СЕРГІЕНЯ***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Банджа-сранджа

Ці ёсьць такі панятак як нацыянальны стыль? Можна аргумэнтавана даказваць, што няма, але цыганскую музыку ні з чым не паблытаеш. Так жа як і “Death Metal” у гарачых фінаў не забярэш. Некаторыя музычныя стылі выразьнейшыя, некаторыя ня вельмі, адныя традыцыйныя, другія, зьвязаныя з сучаснымі плынямі, але кожны куток зямлі мае (ці прынамсі меў) сваю музыку, сваё, залежнае ад шматлікіх фактараў, чуцьцё і ўспрыманьне навакольных гукаў.

Які напрамак рэпрэзэнтатыўнейшы для Амэрыкі – індзейскія завываньні з танцамі вакол вогнішча ці бубненьне чорных кварталаў? Гэта калі ты ведаеш Амэрыку па кніжках немца Карла Мая або з MTV, але калі табе давялося пазнаць Амэрыку знутры, то, канешне, адказ будзе – Bluegrass. Нічога больш так не чакае правінцыйная Амэрыка як чаргавага фэсту “вясковай музыкі” – country music. Зрэшты, так як і клясычная Амэрыка, гэта перамяшаная музыка ірляндцаў, шкотаў і ангельцаў з рознымі мясцовымі і экзатычнымі дадаткамі. І, вядома ж, няма рэпрэзентатыўнейшага інструмэнту гэтай плыні, чым прарэзліва-крыклівае банджа – недарэчнае страшыдла, мутант гітары і бубна. Стаіш ты, беларус, на такім фэсце і думаеш, як бы адсюль даць хутчэй драла, але твае амэрыканскія сябры глядзяць на цябе і чакаюць, што ты разьдзеліш зь імі захапленьне ад музыкі і своеасаблівай, ня буду аспрэчваць, цудоўнай (калі б ня банджа) атмасфэры. І, натуральна, што ты гэта робіш, бо ты беларус-дыплямат. Ты нарадзіўся з генэтычнай памяцьцю старажытнай дуды, а значыць вытрымаеш усё...



“I knew there had to be a reason I took up the double bass.”

Натуральна, стыль можна запазычыць, прынесьці і прывіць. Некаторыя вельмі цешацца, калі зьяўляюцца першыя спробы беларускага рэпу або народнай музыкі, стылізаванай пад эстрадную папсу. Канешне, стылізаваць сёньня можна ўсё – такі наш век, але няхай ніхто не сумняецца, што сэкта людзей з густам выжыве нават у такіх умовах. Нават калі давядзецца спусьціцца пад зямлю. Ну не ўспрымаюць некаторыя падмену, што б ты не рабіў, як бы ты са скуры не вылазіў. Як ты яго ня строй, беларускі рэпэр так і будзе выглядаць як маляваны трансвэстыт з фільмаў Альмадавара на фоне прыгожых дзяўчат з купальскага кола. І як ты не выкручвай, і так атрымаецца японскае порна.

Большасьць з нас, канешне, музычна ўжо даўно перапраграмавалі. Людзі ня ўмеюць успрымаць свае прыроджаныя гукі і пнуцца-цягнуцца да таго, што для іх ненатуральна. З любоўю рэагуюць на поўную лажу і крывяцца ад канвульсіі ў сутыкненьні з прыгожымсваім. Шмат дзе па Беларусі ўжо страчанае мужчынскае і жаночае ўменьне “сьпяваць сярэдзінай”. Некалькі пакаленьняў вырасла не пад гукі матчыных калыханак, а пад музычныя дарожкі дысноэеўскіх страшылак. Перапраграмаваньне адбывалася доўга і паслядоўна. У падлеткавым узросьце свой музычны стыль павінен быў быць у кожнага. Царквою і касьцёлам многім былі MTV і VIVA. Карацей кажучы, быў чалавек, і чалавека ня стала. Я нарадзіўся там...

Але ад гэтага перапраграмаваньня ёсьць моцная прывіўка – вяртаньне да традыцыйнай музыкі. І гэта не азначае, што кожны павінен граць на скрыпцы або лютні. І цымбаліст бывае дурнем і засранцам... Але тое, што ў людзей, набліжаных да традыцыйнай музыкі і культуры ў цэлым, імунітэт нашмат мацнейшы за астатніх, тое нават глухому відавочна.

**Віталь ВОРАНАЎ**

**Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:**

А. Анішчанка ............. 60
А. Масюк ................. 60
Т. Надзейка .............. 60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка** *Viktar Yedzinovich.*

*Паважаныя **А. Аверын, Н. Матыс, С. Мядзьведзеў, А. Пашэнка, Д. Сілко, Д. Талочка**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца ў суботу **13 траўня 2017 г.** на Мангэтане па адрасу:
***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца на сайтце **pahonia.com***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

А. Анішчанка ............. 30
А. Масюк ................. 30
Т. Надзейка .............. 30
Д. Шаламіцкі ............. 30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць на сайце **www.e-krama.com***

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя артыкулы, водгукі й лісты.*